www.nv-online.info

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадо...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 30 (4179)**

14 красавіка 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Падпісацца на «Народную Волю» можна ў любы дзень у любым паштовым аддзяленні ці ў спецыялізаваных пунктах «Белсаюздруку».**

# Няхай Божае добраслаўленне прынясе шчасце кожнаму з нас і ўсёй нашай Беларусі!

## …І свет стане духоўна больш здаровым



**(З Пасхальнага паслання Мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі)**

Улюбёныя ў Хрысце Уваскрэслым праасвяшчэнныя архіпастыры, богалюбівыя прасвітары і дыяканы, шаноўныя манахі і манахіні, богалюбівая паства Беларускай Праваслаўнай Царквы! Сардэчна вітаю вас у гэты вялікі і выратавальны дзень светлай радасці аб Уваскрэслым Госпадзе нашым Ісусе Хрысце словамі пасхальнага вітання.

Хрыстос уваскрэс – Божая сіла Збаўцы свету перамагла смерць. Гэтым дзеяннем Гасподзь даў кожнаму, хто паверыць у Яго і ўвойдзе ў Царкву Хрыстову, сапраўдную свабоду, магчымасць адраджэння і ўваскрасення для жыцця вечнага. Подзвігазаснавальнік Хрыстос, вызваліўшы нас ад смерці і разарваўшы путы граху, які аддзяляў чалавека ад Бога, адкрыў чалавецтву шлях – праз пакаянне і духоўнае праабражэнне – да жыцця вечнага ў Яго Нябесным Царстве, напаўняючы ўжо тут, на зямлі, жыццё сапраўднага хрысціяніна пасхальнай радасцю, ісцінным сэнсам і надзеяй.

Пасля Уваскрасення Свайго Ісус Хрыстос сеў праваруч Бога Айца, і туды, у Царства Нябеснае, Ён заклікае нас звярнуць свае позіркі для таго, каб зразумець, навошта мы прыходзім у гэты свет, да чаго мы заклікаваны і куды павінны імкнуцца ва ўсе дні нашага жыцця на зямлі. Дзеля нас і дзеля нашага выратавання прыйшоў у свет Сын Божы. Дзеля кожнага з нас Ён сышоў на зямлю, прыняўшы чалавечую прыроду, пакутаваў на Крыжы, быў пакладзены ў Гроб, сышоў у пекла і ўваскрэс з мёртвых. Сын Божы стаў сынам чалавечым, каб мы, тыя, што ўверавалі ў Яго і пайшлі ўслед за Ім, сталі сынамі Божымі. Стаць сынамі Божым і – гэта наша прызванне, гэта мэта нашага жыцця на зямлі і гэта наша надзея.

Жыццё Хрыста Збаўцы і Яго слаўнае Уваскрасенне адкрываюць нам гэты шлях праз здзяйсненне спраў дабра, любові і міласэрнасці. Праз выкананне запаведзяў Госпадніх мы можам напоўніць святлом Хрыстовым жыццё наша і людзей вакол нас. Царква Хрыстова заклікае нас дапамагаць у цяжкай жыццёвай сітуацыі абяздоленым, словам змякчаць злыя сэрцы, малітвай ратаваць ад разбуральных заган. Справамі дабра, любові і міласэрнасці мы зможам выканаць свой хрысціянскі абавязак служэння Богу праз служэнне бліжнім.

Дарагія браты і сёстры, слаўнае свята Уваскрасення Хрыстовага заклікае нас скіроўваць свае сілы і працаваць дзеля славы Божай, дзеля славы Царквы Хрыстовай, дзеля дабра і згоды ў грамадстве. Дасягнуць гэтага можна толькі на аснове высокіх духоўна-маральных каштоўнасцяў. Дзякуючы намаганням кожнага з нас свет стане духоўна больш здаровым і чалавек зможа вызваліцца ад граху і нявер'я. Уваскрэслы Хрыстос Збаўца, бачачы наша імкненне ісці за Ім, дасць нам Сваю благадаць і сілу пераадольваць любыя выпрабаванні, якія сустракаюцца на нашым жыццёвым шляху, таму што сэрца кожнага з нас будзе перапоўнена любоўю да бліжніх.

Праасвяшчэнныя архіпастыры, улюбёныя айцы, браты і сёстры, віншуючы ўсіх вас са святам светлага Хрыстовага Уваскрасення, малітоўна жадаю, каб пасхальнае лікаванне пастаянна было ў душы кожнага з нас, умацоўвала веру, усяляла радасць і надзею на Уваскрэслага Збаўцу і Госпада Ісуса Хрыста.

Анатоль ЗЭКАЎ

## Вялікдзень

Вялікдзень нам добрую вестку прынёс,
што душы таемным святлом асвячае.
– Хрыстос уваскрос!
– Сапраўды уваскрос! –
ў Вялікдзень адзін аднаго мы вітаем.

І радасна-светла ад весткі тае,
якая ў Вялікдзень усіх нас яднае,
якая і моцы, і сіл надае,
чаго у будзённым жыцці не хапае.

– Хрыстос уваскрос!
– Сапраўды уваскрос!
Нам свет адкрываецца як бы нанова,
і мы не крыўдуем нікольні на лёс –
жывём жа пад крыжам Хрыстовым.

* * *

Владимир СТЕПАНИЩЕВ

…И в день Святого Воскресенья
Прольется дивный свет с небес.
Испив из чаши искупленья,
Воскликнем мы: «Христос воскрес!»
Да будет имя это свято!
Случилось чудо из чудес.
Ответит эхо нам раскатом,
Что Он воистину воскрес.

*Витебск.*

ПАЗІЦЫЯ

## Вярхоўная Рада дазволіла надаць званне Героя Украіны беларусу Міхаілу Жызнеўскаму

За адпаведныя змены ў закон аб дзяржаўных узнагародах Украіны №6174 агулам прагаласавалі 235 дэпутатаў.

Паводле змен, званне «Герой Украіны» дазваляецца ў выглядзе выключэння надаць і замежніку, пасмяротна ўзнагароджанаму ордэнам Героя ў Нябеснай Сотні.

Грамадзянін Беларусі Міхаіл Жызнеўскі быў забіты падчас Майдана 22 студзеня 2014 года ў Кіеве на вуліцы Грушэўскага.



С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ

Елена МОЛОЧКО

## Рабы гордыни

Теракты от внешних агрессоров минуют Беларусь – слава Богу! Но беда – так или иначе – все равно вторгается в родные края. Весна и осень 2016 года: парень с бензопилой и парень с лезвием ножа… Два безумно жестоких нападения, сообщения о которых буквально разорвали сознание. Преступления, которые, мне кажется, вполне можно причислить к терактам – внутреннего характера. Потому что резонанс от них был огромный, нанесен урон всему социуму – урон моральный, порча нравственная, которая еще аукнутся в будущем. Ведь нападения совершили подростки, несовершеннолетние, по сути, дети. К тому же – учащиеся. Последнее обстоятельство особенно обескураживает. Один – студент, другой – гимназист… Один – с бензопилой, другой – с лезвием ножа. А какие сигналы в минуты преступления посылал им интеллект?

Я силюсь представить себе эти картины: молодые, здоровые, откормленные, обеспеченные… Студент и гимназист! Заранее выбирают орудия преступления, обдумывают, идут к жертвам… Но вот их лица в момент нанесения ударов представить себе, как ни силюсь, не могу. Звериные?.. А на фото из зала суда у обоих вполне адекватная внешность, по крайне мере печатью зла, гримасой ненависти не обезображена. У Владислава Казакевича, конечно, есть мина скепсиса, которая его здорово портит, отталкивает от себя (он на суде сильно хорохорился – мол, у меня ого-го какая броня… впрочем, жизнь и не такие дамбы пробивала).

А вот у Доната Скакуна, учащегося 74-й гимназии Минска, напавшего на учительницу с лезвием ножа, красивое, тонкое лицо. Судя по фото, он на суде напряжен и растерян. Раскаивался? Просил о милосердии? Суд проходил в закрытом режиме, все нюансы нам не известны. Кто-то говорил – со слов близких, наверное, – что во время своего заключения парень успел прочитать всего Ремарка. «Чем примитивнее человек, тем более высокого он о себе мнения. А сомнения и терпимость присущи только культурному человеку». Интересно, «Возлюби ближнего своего» попалась ему в руки? Там как раз о преступлениях и жертвах – в глобальном масштабе.

Ведь что по большому счету привело подростков на скамью подсудимых, на край бездны? Гордыня, адски высокое самомнение. Казакевич хотел жить в солнечной Австралии, а родина его бесила («Тут все бесит»). Студенту не хватало солнца – лично в свой адрес, конечно.

Скакуну не хватало высоких оценок, он тоже не мог смириться со своим положением: его недооценивают! Это гимназиста «унижало» (о, сколько раз потом будет произнесено на разные лады это лукавое слово «унижение», с помощью которого попытаются даже переложить вину на пострадавшую).

И вот гордыня пошла воевать за себя. С оружием в руках.

Пролилась кровь. В первом случае погибли люди. Во втором раненая учительница, к счастью, смогла отбиться.

Казакевичу присудили 15 лет лишения свободы, Скакуну – 8 лет.

«Жестоко!» И: «Жалко…» – вдруг резонировало общественное мнение о приговоре гимназисту. Я поражаюсь… А почему наказание за пролитую кровь должно быть мягкое, сострадательное? Закон суров, иначе он не закон. Но жалко – соглашусь – душу бессмертную молодого преступника. Жалко его папу и маму: будущее для них – ад. Конечно, жалко педагога: ей нанесена огромная травма и физическая, и моральная. И вообще людей жалко – особенно всех, как говорила Анна Ахматова. Мы после этих двух преступлений все пострадавшие, все изувеченные.

Наш век всеми способами призывает человека к личному могуществу, постоянно напоминая ему о достоинстве, о равенстве, о материальном успехе. Мы желаем быть гордыми и свободными. А становимся кичливыми и тщеславными. Рабами своей гордыни. Она повелевает нашими поступками. Смирение и послушание – неведомые для нас понятия. Мы почти не задумываемся о внутренней гармонии, с которой, собственно, и начинается свобода. Мы нарушаем законы духовного мира. И получаем по заслугам – наши дети нападают на нас с оружием в руках.

## Змяняючы сябе, мы будзем змяняць свет

**(З Пастырскага паслання арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага на Вялікдзень 2017 года)**

Глыбокапаважаныя святары, кансэкраваныя асобы, браты і сёстры, людзі добрай волі, жыхары Беларусі!

Сардэчна вітаю і віншую ўсіх вас гэтым пасхальным воклічам з радасным і збаўчым святам Уваскрасення Хрыста, калі нашы сэрцы і думкі зачараваны перамогай Езуса над грахом, смерцю і злым духам.

Святкуючы Пасху, мы павінны задумацца над тым, што прапануе свет і Хрыстус.

Сучасны свет знаходзіцца ў нябачным дагэтуль маральным крызісе. Падаецца, што злы дух і зло перамагаюць. Пагаршаецца сацыяльна-палітычная сітуацыя, нарастае пагроза тэрарызму і гвалту, павялічваецца колькасць забойстваў жыцця ва ўлонні маці, сям'я перажывае вялікі крызіс, міграцыя становіцца сапраўдным бічом, распаўсюджваюцца фальшывыя вучэнні і ідэалогіі, павялічваецца ўплыў матэрыялізму і эгаізму, пануе абыякавасць да чужых праблем, людзі забываюць, што ўсе яны створаны роўнымі і Творца надзяліў іх тымі ж самымі неад'емнымі правамі і гэтак далей. Таксама распаўсюджваецца культура часовасці, якая вядзе да вядомага яшчэ з рымскіх часоў прынцыпу: Carpediem – «Выкарыстоўвай час, бо жывём толькі раз».

Усё гэта не што іншае, як аслабленне духоўнага імунітэту сучаснага свету. Яно вядзе да адмовы ад фундаментальных маральных прынцыпаў, на якіх мы павінны будаваць наша жыццё. У выніку чаго нараджаецца новая канцэпцыя свабоды – свабоды ад Бога і Яго закона, а значыць, свабоды рабіць усё, што хочацца.

Сацыёлагі кажуць, што чалавецтва ад эпохі постмадэрнізму перайшло ў эпоху пострпраўды, калі хлуслівасць больш папулярная чым праўда. Усё гэта вядзе ў тупік і не дапамагае ў вырашэнні новых праблем. У той жа час радаснае пасланне Вялікадня, якое з'яўляецца нязменнай Божай праўдай, гучыць ясна: «Езус наш Збаўца! Ён наш Бог і праўда!»

Такім чынам, мы знаходзімся перад выбарам: «Бог або нічога».

У сакрамэнце хросту мы разам з Хрыстом памерлі для граху і ўваскрэслі для жыцця ў Божай ласцы. Таму ў супярэчлівасці сучаснага свету не будзем баяцца выбраць Яго. Ён не адкіне нас і прыме з міласэрнай любоўю, бо жадае вызваліць з грахоўнага палону і ўплыву фальшывых багоў сучаснага свету. Усё гэта азначае, што праўда Уваскрасення кліча нас выйсці з магілы маральнага заняпаду да жыцця ў Божай ласцы і выбару нязменнай праўды Евангелля.

Адзін мудры чалавек падзяліўся сваім жыццёвым досведам. Калі ён быў малады, то імкнуўся змяніць увесь свет. Потым зразумеў, што гэта не ў яго сілах. Калі стаў старэй, стараўся змяніць людзей вакол сябе. І зноў яму гэта не ўдалося. Калі зусім пастарэў, вырашыў старацца змяніць самога сябе.

Мы самі не можам змяніць свет. Мы не маем сілы змяніць сэрцы і думкі мільёнаў людзей. Але з Божай дапамогай можам змяніць саміх сябе. А змяняючы сябе, мы будзем змяняць свет.

Прыказка кажа: замест таго, каб праклінаць цемру, трэба запаліць свечку. Таму замест таго, каб толькі наракаць на зло, якое апанавала свет, неабходна самім перамяніцца, уваскрэснуць са сваіх грахоў, каб стаць маякамі святла і надзеі ў сучасным свеце.

Мы часта, а часам нават неабгрунтавана, выкарыстоўваем слова «надзея». Напрыклад, кажам: «Спадзяёмся, што заўтра будзе добрае надвор'е або што ў гэтым годзе інфляцыя будзе малой». Далёка не заўсёды такія спадзяванні ажыццяўляюцца. У той жа час наша надзея абгрунтавана чымсьці іншым – праўдай уваскрасення Хрыста, якая з'яўляецца падмуркам нашай веры

Дарагія браты і сёстры!

Віншую вас са святам Пасхі Хрыстовай! Віншую ўсіх хрысціян – католікаў, праваслаўных і пратэстантаў, бо сёлетняя Пасха з'яўляецца сумесным святкаваннем перамогі Хрыста! Віншую людзей добрай волі!

МАСКВА–МІНСК

## Будзем і з нафтай, і з газам

Расія і Беларусь прыйшлі да паразумення па цэнах на газ і нафту, якія задавальняюць абодва бакі, заявіў учора прэм'ер-міністр Расійскай Федэрацыі **Дзмітрый Мядзведзеў.**

13 кастрычніка расійскі ўрад зацвердзіў пратакол, які вызначае аб'ёмы паставак расійскай сырой нафты ў Беларусь з 2017-га па 2024 год у памеры 24 млн тон штогод трубаправодным транспартам.

Другі пратакол, паведаміў Мядзведзеў, устанаўлівае парадак вызначэння цаны на газ для Беларусі ў перыяд да 31 снежня 2019 года (як вядома, была дамоўленасць, што «Газпром» дасць скідкі з паніжальным каэфіцыентам да формулы разліку цаны газу ў 2018-м і 2019 гадах). Трэці пратакол утрымлівае правілы доступу да паслуг суб'ектаў натуральных манаполій у сферы транспарціроўкі газу.

Народная Воля http://www.nv-online.info
14 КРАСАВІКА 2017 г.

ФОТАФАКТ



# Як мінчане штурмавалі аўтобусныя касы

*Сведкам незвычайнага ажыятажу ў цэнтры сталіцы стаў карэспандэнт "Народнай Волі".*

Кампанія Ecolines, якая займаецца міжнароднымі аўтобуснымі перавозкамі, 12 красавіка праводзіла акцыю. Толькі ў гэты дзень і толькі з 12.00 да 14.00 білеты на паездкі з 10 па 31 мая можна было купіць з 50-працэнтнай зніжкай.

Напрыклад, квіток на аўтобус Мінск–Рыга на акцыі каштаваў усяго 20 рублёў. Да Варшавы і Таліна можна было набыць білеты за 28 рублёў, да Санкт-Пецярбурга – за 25, да Масквы – за 23 рублі.

У выніку жадаючых было столькі, што не ўсе змаглі набыць квіткі па прывабным кошце. А чарга ля аўтавакзала "Цэнтральны" расцягнулася на дзясяткі метраў. У асноўным у ёй стаялі маладыя людзі, хаця сустракаліся і больш сталыя.

*"Пачыналі займаць чаргу каля 11 гадзін раніцы*, – распавялі мне тыя, каму пашчасціла купіць білеты. – *Гадзіну, а можа, і болей даводзілася стаяць. Пяць кас усяго працавалі, таму акцыя парадавала не ўсіх*".

Учора я звярнуўся ў кампанію з пытаннямі, колькі прадалі квіткоў за дзве гадзіны і якія накірункі былі самыя папулярныя.

*"На жаль, мы пакуль не прааналізавалі продажы квіткоў са зніжкай і на гэты момант не можам прадаставіць вам актуальную інфармацыю*", – коратка адказалі там.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

Фота аўтара.

МАСТАЦКАЕ ЖЫЦЦЁ

# Хвост выцягнулі – нос заграз

Шмат гадоў беларускія мастакі плацілі за ацяпленне майстэрань у зімовы перыяд па 200 працэнтаў сабекошту – у залежнасці ад плошчы ад 3 да 8 мільёнаў (старымі) у месяц. Гэта была сапраўдная пятля на шыі… Мастакі неаднаразова прасілі ўрад пераглядзець камунальныя тарыфы, паводле якіх калісьці іх майстэрні былі прыраўнаваны да вытворчых плошчаў, як нейкія заводы. Нарэшце Міністэрствам антыманапольнага рэгулявання і гандлю і Міністэрствам энергетыкі прынята сумесная пастанова, паводле якой майстэрні мастакоў выдзяляюцца ў асобную катэгорыю. Плануецца, што з наступнага ацяпляльнага сезона творцы будуць плаціць 100 працэнтаў сабекошту. Можна цярпець…

Але ўзнікла новая праблема. Выйшаў указ №421, паводле якога ў бліжэйшыя месяцы майстэрні, якія знаходзіліся ў калясачных, шчытавых, іншых падсобных памяшканнях у жылым фондзе, трэба вярнуць ЖРЭА. А іх дзесяцігоддзямі, яшчэ с часоў савецкай улады, займалі мастакі. Зараз яны апынуцца на вуліцы – пазбавяцца майстэрань. Што рабіць?

– Гэта мой галаўны боль: куды людзей падзець? – сумна кажа Рыгор Сітніца, старшыня праўлення Беларускага саюза мастакоў. – Іх, безмайстэрных, будзе зараз многа, і не абыякіх, а актыўных сапраўдных мастакоў. Што ім прапанаваць наўзамен? Так, у Саюза вызваляюцца майстэрні – калі хто памірае. Вось пайшоў ад нас народны мастак Май Данцыг... Але вызваліць яго майстэрню ў дзень-два немагчыма: яго карціны – гэта вялізныя палотны, да таго ж – нацыянальная класіка. Толькі праз паўгода, калі ўтрасуцца ўсе спрэчкі па маёмасці, будзем думаць, што рабіць. Майстэрня велізарная, яе, напэўна, будзем дзяліць.

– Але куды ўдаве карціны дзець? Не ведаю! – усклікае Сітніца. – Дачка за акіян звязе (яна жыве ў ЗША)? А яна ж мае права на спадчыну. Вельмі кепска будзе, калі карціны з'едуць з Беларусі. Дзяржава тут мусіць парупіцца. Я перакананы, што Данцыг заслугоўвае музея ў сталіцы – ён найбольш мінскі мастак. Але музеяў заслугоўваюць і Цвірка, і Кашкурэвіч… І што такое зараз адкрыць у Мінску новы музей? Вось на вуліцы Ракаўскай зачыняецца зараз хлебазавод №1 – добрае месца пад музей. Але патрэбны велізарныя сродкі, каб рэканструяваць будынак. Ведаючы эканамічны стан краіны, я не маю вялікага энтузіязму наконт таго, што ў нас з'явіцца яшчэ адзін мастацкі музей.

**Алена МАЛОЧКА.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Генпракуратура Беларусі:

# Экстрадыцыя Баранчыка – досыць доўгі працэс

Шэф-рэдактара аналітычнай службы расійскага інтэрнэт-партала Regnum беларуса Юрыя Баранчыка на радзіме падазраюць у дачыненні да распальвання расавай, нацыянальнай ці рэлігійнай варожасці. Баранчык жыве ў Маскве, а з 15 сакавіка Беларусь абвясціла яго ў вышук. Трох аўтараў Regnuma – Сяргея Шыпценку, Юрыя Паўлаўца і Дзмітрыя Алімкіна – беларускія праваахоўнікі ўжо затрымалі.

Чаму дагэтуль Юрый Баранчык не экстрадзіраваны ў Беларусь?

– *Тэма дэпартацыі, экстрадыцыі з'яўляецца службовай, Генеральная пракуратура звычайна ніякіх каментарыяў па такіх пытаннях не дае*, – каменціруе сітуацыю афіцыйны прадстаўнік Генпракуратуры Беларусі **Пётр Кісялёў**. – *Што тычыцца Баранчыка, то, як і па любым іншым чалавеку, гэта працэдура досыць працяглая і складаная, строгіх лічбаў па тэрмінах экстрадыцыі няма. Таму пакуль казаць што-небудзь рана. Паглядзім парадак абскарджвання... Узгадайце гісторыю расійскага блогера Лапшына, затрыманага ў Беларусі.*

Выдачы Лапшына, як вядома, патрабаваў Азербайджан. Расіяніна затрымалі ў Беларусі ў снежні мінулага года, а выдалі Азербайджану ў лютым гэтага.

У праваахоўных органах тлумачаць, чаму тэрміны выдачы Баранчыка могуць запавольвацца. Па-першае, ён звярнуўся з хадайніцтвам да Уладзіміра Пуціна аб прадастаўленні палітычнага прытулку ў Расіі. Да разгляду гэтага пытання Баранчыка ніхто чапаць не будзе. Акрамя таго, Баранчык можа абскардзіць у судзе рашэнне беларускага боку.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ЗА ПРАХАДНОЙ

# КАМЕНЬ НА ШЫІ, або Драма Мінскага падшыпнікавага завода

*Восенню 2009 года Мінскі падшыпнікавы завод наведаў Аляксандр Лукашэнка. Тады прэс-служба прэзідэнта, помніцца, паведаміла: завод у жудасным заняпадзе. Нягледзячы на шматмільярдныя датацыі з боку дзяржавы, аб'ём вытворчасці скараціўся ў разы. А.Лукашэнка катэгарычна заявіў: "Такіх занядбаных прадпрыемстваў не павінна быць!" Сфармулявалі стратэгічную задачу: ужо да канца 2009 года давесці аб'ём прадукцыі ў месяц да 20 мільярдаў рублёў. Яшчэ большымі былі планы на перспектыву. А таму ў адным рэкламным артыкуле напісалі: "Такая маштабная задача не па плячы ранейшаму кіраўніцтву". І выбар упаў на **Аляксандра Лабусава**, які да гэтага працаваў у Міністэрстве прамысловасці Беларусі.*



## Інвестар быў, але яго адхілілі

Падчас наведвання завода Аляксандр Лукашэнка, магчыма, аб гэтым і не ведаў. Як расказаў мне **Уладзімір Лазоўскі**, які на той час быў старшынёй прафкама падшыпнікавага завода, яшчэ напрыканцы мінулага стагоддзя вяліся перамовы з сусветна вядомай шведскай фірмай "СКФ", адной з тых, што дыктуюць моду ў свеце вытворчасці падшыпнікаў. Прапановы замежнікаў былі прывабныя: яны гатовы ўнесці ў казну 30 мільёнаў долараў і выдзеліць яшчэ 280 мільёнаў долараў на мадэрнізацыю завода. Але пры гэтым "СКФ" настойвала на пазбаўленні сацыяльнай сферы і магчымасці скараціць персанал прадпрыемства да дзвюх з паловай тысяч чалавек.

Гэта беларускім уладам не спадабалася, перамовы станоўчага выніку не прынеслі.

І што атрымалася? Завод застаўся без інвестыцый. І ў хуткім часе вымушаны быў адмовіцца ад утрымання сацыяльнай сферы. Яшчэ ў большай ступені, чым прапаноўвалі замежнікі, скарацілася колькасць працаўнікоў, фактычна да тысячы з паловай…

## Пад асабістым кантролем першага віцэ-прэм'ера

Як толькі не называлі прапагандысты прыезд Аляксандра Лукашэнкі на завод: і рэзананснай падзеяй, і кропкай адліку, і вехай, што вызначыла курс, і мудрым урокам стратэгіі. У тыя дні першы віцэ-прэм'ер **Уладзімір Сямашка** атрымаў даручэнне ўзяць пад асабісты кантроль навядзенне парадку на прадпрыемстве, вырашэнне пытанняў тэхнічнага пераўзбраення, павелічэння аб'ёмаў вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі.

Праграму мадэрнізацыі завода, заўважу, рыхтавалі з вялікай пыхай, яе накіравалі на дзяржаўную экспертызу ў Нацыянальную акадэмію навук, Дзяржкамітэт па навуцы і тэхналогіях, Міністэрства эканомікі і ў рэшце рэшт у Савет міністраў.

У верасні 2011 года Сямашка станоўча ацаніў стан мадэрнізацыі. Праз год ён пахваліў кіраўніцтва завода за добраўпарадкаванне вытворчых карпусоў, найперш, як напісала заводская газета, іх фасаднай часткі. Але за шырмай гучных слоў ад калектыву хавалі галоўнае.

У стратэгіі ўзнікалі расколіны, бо тая ж заводская газета ў 2012 годзе пісала: *"Пакуль асаблівага энтузіязму і асабістай ініцыятывы ў цэхах не адчуваецца. Больш жадаючых паразважаць аб высокім заробку, забываючыся пра тое, што яго трэба зарабляць, а не патрабаваць, асабліва не напружваючыся. Пара нарэшце зразумець, што разам мы можам многае і нічога не вартыя, калі схаваемся ў сваіх цэхавых норах"*.

Колькасць тых, хто "хаваўся ў норах", была каласальнай: звальненне работнікаў ішло шпаркімі тэмпамі. Калі ў 2009 годзе на падшыпнікавым заводзе працавала звыш 4 тысяч чалавек, то к восені 2015-га засталося толькі 1620.

Лагічна было б меркаваць, што скарачэнне штатаў дазволіць тым, хто застаўся на заводзе, мець прыстойны заробак. Дык не! Напрыканцы 2010 года рабочыя зараблялі ў сярэднім 625 долараў (у эквіваленце), а восенню 2015-га – усяго 280.

Папаўзлі панічныя чуткі, што завод увогуле могуць ліквідаваць

Пра сітуацыю таго часу распавядае намеснік старшыні Свабоднага прафсаюза металістаў **Аляксандр Еўдакімчык,** які адпрацаваў на падшыпнікавым заводзе амаль два дзесяцігоддзі:

– *Заробак зніжаўся. Кваліфікаваныя работнікі звальняліся. Кіраўніцтва завода заплюшчвала вочы на негатыўныя з'явы. Прымаліся меры, якія нічога не вырашалі. Панавала паказуха. Скарачалі працягласць працоўнага дня…*

## Мінус 450 мільёнаў долараў

Мінула шэсць гадоў пасля прыезду Аляксандра Лукашэнкі на завод, а мадэрнізацыя ідзе праз пень-калоду. Новую лінію прэсаў, напрыклад, завезлі, але не эксплуатуюць, хаця павінны былі запусціць яшчэ ў 2014 годзе. Відавочна, што персанал не мае належнай прафесійнай падрыхтоўкі.

Усіх пужаюць магчымым новым візітам кіраўніка дзяржавы на завод: маўляў, не зніжайце напружання. Фізічных высілкаў, магчыма, было ўдосталь, інтэлектуальны ж бок справы быў слабы.

У справаздачы за 2014 год для Міністэрства фінансаў Мінскі падшыпнікавы завод указаў страты ў 92 мільярды рублёў, за першую палову 2015 года яны дасягнулі аж 113 мільярдаў.

Тым не менш гэта, як і многае іншае, не перашкаджала генеральнаму дырэктару Аляксандру Лабусаву, сцвярджаць у рэкламных інтэрв'ю, што Мінскі падшыпнікавы завод дасягнуў высокага сусветнага ўзроўню. Карэспандэнты дзяржаўных газет у такіх выпадках не задавалі пытанняў пра эканамічны стан прадпрыемства, яно ж было жахлівае. К сярэдзіне 2016 года даўгі МПЗ былі 450 мільёнаў долараў.

## Танец чарцей

Фальклор – з'ява неўміручая. Гутарыў нядаўна з даўнімі знаёмымі, рабочымі Мінскага падшыпнікавага завода. Пытаюцца ў мяне: "А ці чуў ты, што такое "чатыры П"?" Наўгад адказваю: "Мо віно якое новае прыдумалі…"

Смяюцца. Не, кажуць, гэта новая назва нашага завода. Пасля кароткіх угавораў расшыфроўваюць невядомую мне формулу: "Патрыёты, пенсіянеры, п'яніцы і прыдуркі". Дадаюць: "Гэта мы і сябе так называем, бо адначасова патрыёты і прыдуркі, праўда, не п'яніцы і пакуль што не пенсіянеры".

У рабочым асяроддзі любяць вострае слова і не саромеюцца яго ўжываць у адпаведнай сітуацыі.

Калі сем гадоў таму дырэктарам завода прызначылі Аляксандра Лабусава, ён адразу набыў новую скураную мэблю для кабінета, памяняў аўтамабіль. А яшчэ захапіўся ўсталяваннем скульптурных кампазіцый вакол завода. Афіцыйна ім далі ўзнёслыя назвы: "МПЗ – адна сям'я", "Пунсовыя ветразі". Выглядалі яны не толькі нязвыкла, але і недарэчна. Незразумела было і тое, колькі каштавала гэтая забава новага дырэктара завода. Дарэмна старалася шматтыражка тлумачыць, што *"ў гэтым карагодзе фігур умоўны сепаратар, які, калі глядзець на вертыкальную прастору паміж фігурамі ад асновы да рук, абазначае месца для ролікаў, а прагібы ў звязцы рук – для шарыкаў"*. Усё роўна паміж сабой рабочыя звалі асноўную скульптуру "Вязнямі Бухенвальда" альбо "Танец чарцей".

Калі ж Аляксандр Лабусаў без ушанаванняў пакінуў пасаду дырэктара, скульптуру ад цэнтральнай прахадной завода звезлі на задворкі, да транспартнай прахадной з вуліцы Ваупшасава. Фактычна выкінулі…

## У розных галактыках

Узгадваючы падзеі апошніх васьмі гадоў дзейнасці Мінскага падшыпнікавага завода, прыходзіш да сумнай высновы: з вялікага грому – малы дождж. Прадпрыемства не толькі не выйшла на сусветны ўзровень, чым так любіў хваліцца былы дырэктар Аляксандр Лабусаў, яно нават у межах Беларусі стала лічыцца адным з самых недалужных.

Чаму ж так атрымалася? Ад чыноўнікаў дабіцца праўды немагчыма, і я скіраваў сваю ўвагу на размовы з рабочымі завода, былымі і цяперашнімі, без усякіх жартаў – патрыётамі прадпрыемства.

За ўсе гады мадэрнізацыі ніхто з кіраўнікоў не хацеў выслухаць іх думкі. Яны і пра візіт Аляксандра Лукашэнкі гаварылі, што грунтоўнага дыялогу з калектывам тады не адбылося, бо начальства яго не хацела, наадварот, усіх інструктавалі, каб ніхто не высоўваўся са сваімі пытаннямі, меркаваннямі. Атмасфера ігнаравання працоўнага чалавека моцна пакрыўдзіла іх.

І надалей усе візіцёры, а іх было за ўсе гады процьма, абыходзілі працаўнікоў бокам.

Рабочыя ж добра бачаць, хто з начальнікаў, ІТР займаецца ў цэхах справай, а хто адбывае дзень да вечара

Стала модным стварэнне структур так званай эканамічнай бяспекі. За ўзнёслай тэрміналогіяй хаваюцца прымітыўныя схемы. Розныя начальнічкі шукаюць сабе працу. Напрыклад, забараняюць рабочым заказваць лішні, на іх думку, інструмент. Па форме быццам бы і правільна, а на справе здараецца так, што тэрмінова мяняецца заказ, а выканаць яго няма чым. "Эканамічную бяспеку" не хвалюе тое, што інструментальшчыкі не могуць выканаць заказ з цвёрдымі сплавамі з-за таго, што вымушаны чакаць патрэбны інструмент дзён дзесяць…

### Рабочы Ігар АНДРЭЕВІЧ (імя зменена):

– *У нашага начальства, калі пачынаеш гаварыць аб недахопах, адказ адзін: "Ва ўсім вінаваты вы, гультаі". А мы ж бачым маніпуляцыі са справаздачнасцю. За тры дні да канца месяца выкананне плана – на 49 працэнтаў, а праз пару дзён – на 106!*

*Кантракты ператварылі ў бізун. Адкрыў рот неўпапад – вон за прахадную!*

## Хроніка разгрому (малюнкі недалёкага мінулага)

### Аляксандр ЕЎДАКІМЧЫК:

– *Я прыйшоў на завод у 1978 годзе. Тады на лініі карданных падшыпнікаў працавала брыгада з 28 чалавек. Зараз той лініі наогул няма. Тэхналагічныя аперацыі раскінулі па розных кутках. Станкам – асноўным з лініі карданных падшыпнікаў – па сорак гадоў, яны ўжо сталі ламаччам, а іх перавозілі на новае месца пад фанфары аб мадэрнізацыі.*

*Другі прыклад. У кузню перавалаклі шэсць бакавых паўаўтаматаў. Абслугоўвалі іх два работнікі пазменна. У іх заробак быў па два мільёны бруднымі ў месяц. Здзек!*

*Людзі былі вымушаны працаваць у жудасных умовах. У іх не было стропальшчыкаў, не было шнэкаў для выдалення металічнай стружкі. Яе выграбалі лапатай і адвозілі на тачцы. Людзі вымушаны працаваць у жудасных умовах.*

### Уладзімір ЛАЗОЎСКІ, былы старшыня прафкама:

– *У мінулым годзе пабываў на заводзе, з хваляваннем зайшоў у кавальскі корпус, дзе працаваў у свой час. Адчуванне не з лепшых. Мяне цікавілі не столькі інтэр'ерныя навінкі, гэта другаснае. Абсталяванне якім было ў 1991 годзе, такім і засталося. Імпартныя печы і гарызантальна-ковачныя машыны, якія каштуюць вялікіх грошай, не працуюць. Хто чым думаў, калі набываў іх, не вядома. У дадатак у кавальскі корпус перавезлі такарныя станкі, якія там абсалютна не патрэбны. Нічога добрага не ўбачыў і на ўчастку адпальвання, дзе пакоўкі рыхтуюць для далейшай апрацоўкі. Цяга да паказухі засланіла ўсё астатняе.*

### Пётр ВАСІЛЬЕВІЧ, рабочы:

– *Прывезлі ў тэрмічку новыя печы. Раней там стаялі пяць печаў, якія бралі 100 кВт электраэнергіі. Дзве новыя будуць з'ядаць 200 кВт. Спатрэбілася новая падстанцыя, новыя электраліініі. Дзе былі аналітыкі, дзе эканамічны разлік? Дзе ў рэшце рэшт тое самае ўпраўленне эканамічнай бяспекі?*

*Часам падаецца, што галоўным у мадэрнізацыі стала імкненне прыбраць смецце, пафарбаваць фасады, выставіць скульптуры…*

## Куды вывезлі чарапіцу?

Ад рабочых завода я даведаўся пра розныя выпадкі, калі заводскія начальнікі па меншай меры не заўважалі, як расцягваюцца матэрыялы, каштоўнасці.

Аднойчы ў выхадны дзень раскурочылі 29 станкоў, такарных паўаўтаматаў, з іх скралі трансфарматары і іншыя каштоўныя вузлы. Зладзеяў не знайшлі.

Завезлі на завод чарапіцу, каб замяніць дах над кузняй. Трошкі паляжала яна і знікла. Дах над кузняй застаўся стары. Яе некуды вывезлі на заводскай машыне. Знайшліся людзі, якія пачалі цікавіцца, а ім адказваюць:

– Не лезьце не ў свае справы, дырэктар ведае, што і куды павезлі.

## Якімі словамі ўзгадваюць дырэктараў?

### Аляксандр ЕЎДАКІМЧЫК:

– *Мне добра вядомы былыя кіраўнікі завода. Аркадзь Якаўлевіч Высоцкі – непераўзыдзены волат, 20 гадоў кіраваў заводам. Ён і па цяперашніх крытэрыях застаецца найбольшым аўтарытэтам. Паважаю Цыгалава. Класным інжынерам быў Пенза, але не ўтрымаўся ад спакусы – і адседзеў некалькі гадоў за кратамі.*

*Цяпер адзін за адным ідуць варагі, як кажуць рабочыя – набрыддзе. Для іх усё роўна, чым кіраваць – падшыпнікавым, маргарынавым, швейным…*

*Маджэра прывезлі з Гродна, Лабусава знайшлі ў нетрах Міністэрства прамысловасці, цяперашні дырэктар Анціпаў увогуле працаваў на Алтаі, у Падмаскоўі. І калі б ён па сямейных абставінах не пераехаў у Мінск, то не ведаю, дзе б шукалі новага дырэктара… На мой погляд, улада не мае яснай кадравай стратэгіі ў прамысловасці. Прафесія інжынера, арганізатара вытворчасці страціла былую прыцягальнасць. Дырэктар завода зараз хлопчык для выканання загадаў зверху. Мае заводскія сябры распавядалі, як Лабусаў у прыватных размовах бэсціў ідэю мадэрнізацыі, сцвярджаў, што ён адразу не ўспрыняў яе, але ціснулі Сямашка, гарвыканкам… Чаму ж ты, такі разумны, маўчаў, не сышоў у адстаўку?*

*450 мільёнаў долараў у выглядзе даўгоў вісяць каменем на шыі прадпрыемства. Вынік безгаспадарчасці! Прыкладаў – мноства. Фактычна ніводная з новых ліній не запрацавала на поўную магутнасць. Існуе шэраг тэхналагічных непаразуменняў. Комплексы MURARO набывалі без праграмнага забеспячэння, вобразна кажучы, без мазгоў.*

*Што тычыцца заробкаў, то планы тут сціплыя, яны не адпавядаюць дырэктывам зверху. Новы дырэктар Мікалай Анціпаў гаворыць пра магчымыя 800 рублёў сярэдняга месячнага заробку толькі гады праз два.*

*На пачатак бягучага года ён абяцаў павысіць месячны аб'ём вытворчасці да 6–6,5 мільёна недэнамінаваных рублёў. Пакуль што вызначаны рубеж не скарыўся. І сярэдні заробак у лютым бягучага года склаў усяго 560 рублёў.*

**Мікалай ЗЯНЕВІЧ.**

